№ 22

Студзень 2001г.

# Беларускі калекцыянер

☐ Памылка Аляксандра Грына

☐ Каталог значкоў «Аршаншчына ў фалерыстыцы»

☐ Нацыянальная сымболіка і ўніформа беларускага войска ў 1992 — 1996 гг.

☐ Нарукаўныя знакі Беларусаў у польскіх частках брытанскага войска 1940 — 46 гг.

☐ Беларускія вайсковыя каўняровыя эмблемы 1993 — 1995 гг.





*Рэдактар Алесь Сярожкін*

*На здымку: у цэнтры – старшыня Цэнтра імя Філона Кміты Віктар Андрэеў, злева – спецыяліст па вёрстцы і дызайну Алена Міначчына, справа – сябра рэдакцыі Юры Санько*





*Сябра рэдакцыі Алег Граблеўскі*

**У лістападзе 2000 года споўнілася 10 гадоў з дня выхаду першага нумара газеты "Беларускі калекцыянер". Гэты юбілей нікім не адзначаўся, у тым ліку і тымі людзьмі, якія сёння працягваюць выдаваць адзінае ў краіне выданне для калекцыянераў. З лістапада 1990 года па лістапад 2000-га ўдалося выдаць усяго 21 нумар газеты "Беларускі калекцыянер". Зразумела, што гэта вельмі мала. Тым больш, што матэрыялу, які назапашаны сёння, хапіла б на добры штомесячны часопіс.**

Быў час, калі мы выдавалі першыя нумары "Беларускага калекцыянера" цалкам за ўласныя сродкі. У пачатку 90-х гадоў гэта яшчэ было магчыма. Таксама былі людзі, якія ўсяляк падтрымлівалі газету, у тым ліку і грашыма. Трэба адзначыць вядомага дзеяча беларускага замежжа Вітаўта Кіпеля, які заўжды падтрымліваў выданне "Беларускага калекцыянера".

Сёння газета выходзіць дзякуючы фінансавай падтрымцы IDEE (Варшава) і аршанскаму Цэнтру імя Філона Кміты. Менавіта супрацоўнікі гэтага Цэнтра, якія выдаюць цэлы шэраг рэгіянальных газет, выконваюць усю тэхнічную працу па стварэнню новых нумароў "БК".

Тое, што такое выданне, як "Беларускі калекцыянер", вельмі патрэбна, сведчаць лісты нашых чытачоў. Пішуць з усіх куткоў нашай Бацькаўшчыны, а таксама з замежжа.

У нас склаўся добры аўтарскі калектыў, дзякуючы якому газета заўжды змяшчае цікавыя і малавядомыя факты з нашай гісторыі. Асабліва хацелася б адзначыць вядомага беларускага філатэліста Льва Коласава з Менску. Гэты чалавек зрабіў вельмі шмат для развіцця беларускай філатэліі і газеты "Беларускі калекцыянер". Ён вярнуў з небыцця маркі "Слуцкага паўстання". Гэта адзін з нямногіх на Беларусі даследчыкаў гісторыі беларускай пошты.

Прыемна, што і моладзь таксама далучаецца да працы па збіранню і захаванню знакаў нашай гісторыі.

Няпроста сёння выдаваць беларускую газету, тым больш такую, як "Беларускі калекцыянер". Але ўсё тое, што залежыць ад нас, мы будзем рабіць. Спадзяёмся таксама на падтрымку нашых сяброў, як на Беларусі, так і за яе межамі.







*Паштоўкі мастака Г.Селядца.*
*Выдавец М.Казлоўскі. г.Маладзечна 2000*

*Польская паштоўка з выявай карціны «Бітва пад Оршай»*




| час | kHz | хвалі |
|---|---|---|
| 18:00–19:30 | 7190 | 41 |
| | 9615 | 31 |
| | 15460 | 19 |
| 22:00–23:30 | 6010 | 49 |
| | 6170 | 49 |
| | 9845 | 31 |
| 06:00–07:00 | 5995 | 49 |
| | 7295 | 41 |
| | 9750 | 31 |

сярэднія хвалі – 576 і 612 kHz

*Беларускі каляндарык*



***Прадаецца кніжка "Псалтырь", друкаваная ў 1645 годзе. Пачатковы кошт 300 у.а. Звяртацца на адрас рэдакцыі.***

*Газета «Беларускі калекцыянер. Выдаецца з 1990. Рэдактар: Алесь Сярожкін. Рэдакцыйная калегія: Юры Санько, Алег Граблеўскі, Віктар Астрога. Вёрстка Алены Мiначкінай.*

*Пры перадруку спасылацца на «Беларускі Калекцыянер». Рукапісаў рэдакцыя не вяртае й не рэцэнзуе. Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Газета выдаецца пры дапамозе Цэнтра Філона Кміты.*

*Падпісана ў друк 15.01.2001г.*

*Адрас для допісаў: Сярожкін А.М. 211030, Орша-9, п/с 46, Беларусь.* *Наклад 299 асобнікаў.*

*На першай старонцы вокладкі часопіса змешчана юбілейная паштоўка да 2000-годдзя Хрысціянства. Касцёл Нараджэння Марыі Панны г.Браслаў. На чацвёртай — выявы значкоў з калекцыі А.Сярожкіна*

